Іосіф ГАШКЕВІЧ: ПАДЗВІЖНІЦТВА, ЗАБЫЦЦЁ, НАДЗЕЯ

# БЕЛАВАЛОСЫ КОНСУЛ

Калі б Іосіф Гашкевіч не зрабіў бліскучую дыпламатычную кар'еру, усё роўна яго імя ўвайшло б у нашу гісторыю.

Беларус. Нарадзіўся ў Мінскай губерні, усё жыццё сумленна і праведна служыў на карысць Навукі. Вучоны-энтамолаг, падарожнік-усходавед, лінгвіст, дыпламат. Спіс талентаў І.Гашкевіча можна працягваць. Успамін пра ўсё, што зрабіў гэты чалавек, дае нам падставу называць яго першапраходцам у многіх галінах грамадскай практыкі. І ўсё, што ён рабіў, рабіў з адказнасцю і грунтоўна.

Гашкевіч -- адзін з першых, хто ўсебакова даследаваў Паўднёвую Афрыку; яго называлі піянерам, "які даследаваў сельскагаспадарчыя расліны Кітая" ў канцы XIX стагоддзя. Ён быў першым, хто сабраў вялікую калекцыю флоры і фауны Індакітая, Філіпін, Карэі, Японіі. Дырэктар першага ў Расіі Заалагічнага музея Акадэміі навук прафесар Брант высока цаніў працы І.Гашкевіча па прыкладной батаніцы, хіміі, па ўдасканаленню культуры вядзення сельскай гаспадаркі. Апошнім асабліва захапляўся малады вучоны. "Мне хочацца, каб пладаносныя расліны прыжыліся і на маёй радзіме -- Беларусі. Маіх землякоў душыць беднасць. Зерне, якое кідаюць у зямлю, родзіць у сярэднім на адну трэць. Беспрасветнае жабрацтва". Гашкевіч сабраў унікальную калекцыю матылькоў, на якую кваліліся амерыканскія вучоныя і ацэньвалі яе значнай сумай. На здзіўленне амерыканцаў, гэтая калекцыя была бязвыплатна падаравана Іосіфам Антонавічам Заалагічнаму музею.

І.Гашкевіч пакінуў пасля сябе унікальныя працы: "Спосаб прыгатавання тушы, бялілаў і румянаў у кітайцаў", "Імператарскае, або благавоннае пшано юй-дао-мі, або сень-дао-мі", "Аб развядзенні шаньян", "Ганконг у запісах рускага падарожніка". Гэтыя даследаванні былі надрукаваны ў "Працах членаў Расійскай духоўнай місіі ў Пекіне", у складзе якой знаходзіўся І.Гашкевіч пасля заканчэння з выдатнай адзнакай Пецярбургскай духоўнай акадэміі ў 1839 годзе.

Гашкевіч -- сын вясковага уніяцкага святара. Відавочна, ён мог стаць духоўным служыцелем. Але надзвычайны талент моваведа-арыенталіста прывёў яго на дыпламатычную службу. Ён ведаў 13 замежных моў і меў рэпутацыю выдатнага лінгвіста. Яго галоўная праца -- "Японска-рускі слоўнік", напісаная разам з доктарам Тацібана-но-Косай, які ўпотай пакінуў Японію і стаў у далейшым пад іменем Уладзіміра Яматава хросным сынам Іосіфа Антонавіча. Імператарская Акадэмія навук адзначыла гэтую працу Дзямідаўскай прэміяй з уручэннем залатога медаля. 1857 год стаў годам прызнання І.Гашкевіча як вучонага-сінолага і як дыпламата: ушанаванні, грашовыя ўзнагароды, ордэны. Яго ўзнагародзілі ордэнам св. Ганны 2-й ступені з каронай і адначасова падаравалі 500 рублёў срэбрам. Незадоўга да гэтага Іосіф Антонавіч атрымаў знак "Выдатнік беззаганнай службы". Імператарскі Казанскі універсітэт прыслаў яму запрашэнне заняць пасаду прафесара кафедры японскай мовы.

Пачынаючы сваю кар'еру ў МЗС, І.Гашкевіч не меў радавітых сувязей, багацця. Аднак, дзякуючы свайму цярпенню, стараннасці і талерантнасці, прайшоў усе ступені службовай лесвіцы: ад калежскага саветніка да драгамана V класа.

Пачынаў ён кар'еру перакладчыкам японскай мовы пры пасольстве графа Пуцяціна ў Японіі ў 1852 годзе. Гашкевіч удзельнічаў у перамовах, якія завяршыліся падпісаннем першага ў гісторыі адносін дзвюх краін руска-японскага дагавора, заключанага ў Сімодзе ў 1855 годзе. Кіраўніка рускай місіі графа Пуцяціна ведалі як чалавека крутога нораву, скупога на пахвалу. Тым больш высокай характарыстыкай уяўляюцца яго словы, якія былі сказаны ў адрас тады яшчэ маладога дыпламата, выхадца з Беларусі Іосіфа Гашкевіча: "Не магу нахваліцца яго здольнасцямі, шматбаковай адукаванасцю і строгай дакладнасцю выканання ўсіх даручаных яму спраў.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

# МАЛА ДНЯ — НАПЕРАДЗЕ НОЧ

Маем мы ўжо і добрыя іконы, ёсць нават старадаўнія, сярод якіх вылучаецца Божая маці беларускага пісьма. Дваццаць ікон, таксама сапраўдных, старадаўніх, нам даслалі з Санкт-Пецярбурга. Але пішуць добрыя іконы і сучасныя мастакі. Некаторыя з іх работ таксама трапляюць у наш храм, і хаця сёння мы яшчэ не можам выставіць іх, пасля завяршэння работ усе іконы зоймуць сваё пачэснае месца.

Над агульнай канцэпцыяй аднаўлення сабора працуе аўтар праекта рэстаўрацыі Аляксандр Кропатаў, адраджэннем роспісу займаецца Фёдар Сарока. Час ад часу мы збіраемся і разам абмяркоўваем найбольш важныя праблемы, звязаныя з уладкаваннем сабора. Наогул існуюць прынцыповыя каноны арганізацыі храмаў, але кожны з іх павінен усё ж такі мець свой непаўторны твар.

*-- Хто фінансуе работы? Сродкі патрабуюцца немалыя, наўрад ці ахвяраванні вернікаў могуць быць значнымі?*

-- Епархія ніякіх грошай нам не дае. Наадварот, нават яшчэ чакае ад прыходу падтрымкі для сябе. Таму, калі казаць пра фінансаванне будаўніцтва, можна вылучыць дзве асноўныя крыніцы. Па-першае, грошы, якія мы атрымліваем ад продажу свечак, іконак, адправаў. І, па-другое, дапамога, ахвяраванні прадпрыемстваў, камерцыйных структур.

*-- А як вы на іх "выходзіце"?*

-- Ну як... Даведваемся адрасы, імёны людзей, ад якіх залежыць прыняцце рашэнняў, ідзём да іх і просім. У большасці выпадкаў гэта знаходзіць водгук, спачуванне. Хто грашыма, хто будаўнічымі матэрыяламі дапамагае. Тое, што зроблена -- а зроблена ўжо нямала, -- у большасці фінансавалася такімі нашымі зычліўцамі.

*-- Звычайна яны людзі веруючыя?*

-- Нельга сказаць, што ўсе, але большасць з іх веруюць. Магчыма, не да канца ўсё разумеюць, але ёсць вера, разуменне залежнасці ад Бога, Божай волі.

Існуюць і іншыя матывы. Наш храм -- сапраўдны помнік гісторыі, жамчужына беларускай культуры. Гэта самае старажытнае царкоўнае збудаванне ў Мінску. Вось і рухае некаторымі ахвяравальнікамі жаданне нечым дапамагчы адраджэнню нацыянальнай культуры, маральнасці і тым самым адраджэнню нашай дзяржавы.

А іншым часам у чалавека проста ёсць ахвота дапамагчы. Будаваць жа храм -- справа добрая. Такім чынам, у дзевяці выпадках з дзесяці мы знаходзім спачуванне ў тых, хто, акрамя гэтага спачування, валодае яшчэ і грашыма.

*-- Наша грамадства зараз перажывае пэўны рэлігійны, а, магчыма, псеўдарэлігійны бум. Як вы лічыце, што тут ад глыбокай веры, а што проста ад чарговай моды, якая хутка сыдзе, і следу ніякага не застанецца?*

-- Безумоўна, адна[illegible]на ацэньваць гэтую з'яву нем[illegible]чыма. Ёсць рэлігія, а ёсць фарысейства, ханжаства. Здараюцца сітуацыі, калі чалавек выдае жаданае за рэальнае, здараюцца спекуляцыі на цяперашн[illegible] павышанай, нават хвар[illegible]ай цікавасці людзей да міс[illegible]ыкі, усяго таямнічага... Але ж царква імкнецца даць неабходныя станоўчыя веды пра рэальнасць, стварыць падмурак для далейшага развіцця маральнасці, якая без рэлігійнай асновы, па майму меркаванню, наўрад ці магчымая. І нават, калі чалавек прыходзіць у царкву з-за моды або падпарадкоўваецца нейкаму агульнаму стэрэатыпу, магчыма, нейкае добрае зерне трапіць у яго душу і прарасце там з большым ці меншым поспехам, як у прытчы: адно семя дало трыццаць крат плады, другое -- шэсцьдзесят, трэцяе -- сто. Гэта ўжо залежыць ад унутранай здольнасці чалавека. Таму цікавасць да рэлігіі, чым бы яна ні была абумоўлена, дае толькі станоўчыя вынікі.

*-- Такім чынам, калі на Вялікдзень ці ў Вербную нядзелю натоўпы людзей сапраўды асаджаюць цэрквы, ваша сэрца свяшчэннаслужыцеля радуецца?*

-- Радуецца і вельмі засмучаецца з-за таго, што так мала ў нас храмаў, не хапае свяшчэннікаў, якім, у сваю чаргу, нестае часу, каб удзяліць дастаткова ўвагі людзям, як тым, хто сапраўды цікавіцца рэлігіяй, так і тым, хто мае іншыя погляды ці нават прыходзіць паспрачацца. Трэба чалавеку растлумачыць сваю пазіцыю, усё расказаць пра наша спадзяванне, нашу надзею, нашу веру. І тады чалавек зможа спакойна вырашыць, трэба гэта яму ці не.

*-- Тады такое пытанне: ці не адбіваецца на самой царкве і яе служыцелях наша цяперашняя занадта вялікая мітусня? Ведаю чалавека, які хадзіў у царкву на споведзь, але замест спакою, нейкай інтымнасці абстаноўкі знайшоў там сапраўдны канвеер па адпушчэнню грахоў. Ніякага індывідуальнага кантакту са свяшчэннікам не атрымалася, бо той вельмі спяшаўся: шмат людзей чакалі яго. Георгій Пятровіч, скажыце, гэта выпадковасць ці, на жаль, ужо тэндэнцыя?*

-- З-за таго рэлігійнага буму, пра які вы казалі, такія сітуацыі ў гарадах не адзінкавыя. Таму ў нас у Петра-Паўлаўскім саборы ў суботу пасля службы застаецца свяшчэннік, каб людзі спакойна, няспешна падыходзілі і спавядаліся. Царква не зачыняецца -- уся ноч наперадзе.

Гэта адзін з варыянтаў вырашэння праблемы. Канешне, мы за тое, каб болей было храмаў, літаральна ў кожным раёне, няхай і маленькіх цэркваў. Прыклады таго, што такое магчыма зрабіць, ужо ёсць. Менавіта так у мікраёнах Мінска будуюцца Пакроўская і Праабражэнская цэрквы.

Трэба болей мець свяшчэннікаў і ў прыходах, а ў Кафедральным саборы -- 10--15, каб у любы час дня чалавека сустракалі адчыненыя дзверы храмаў. На жаль, мець такога "дзяжурнага" свяшчэнніка ў сваім саборы мы пакуль таксама не можам, цяпер нас засталося толькі трое. А зараз лета, па чарзе ідзём у адпачынак. Вось я ездзіў нядаўна па паўночна-заходняй Беларусі -- Навагрудскай епархіі, дык там у адным вясковым касцёле пяць ксяндзоў, сем манахаў і сем манашак. Натуральна, у іх значна шырэйшыя магчымасці для работы з моладдзю, дзецьмі.

*-- Вы лічыце, што каталіцкая царква больш паспяхова вырашае свае арганізацыйныя праблемы?*

-- Так, канешне. Але трэба ўлічваць, што ў католікаў значная падмога ідзе звонку -- з Польшчы, а то і з Ватыкана. Такім шляхам трапляюць на Беларусь і матэрыяльныя сродкі на аднаўленне і рэстаўрацыю кляштараў, касцёлаў. Нам жа, праваслаўным, часта кажуць, што мы "маскоўская" царква. Але з Масквы мы не атрымліваем ні рубля. Так што Масква тут зусім не "распаўсюджвае" праваслаўе. З цяжкасцю, але абыходзімся сваімі сіламі.

*-- Георгій Пятровіч, давайце звернемся зноў да ўзаемаадносін царкоўнага і свецкага. Як вы лічыце, у цяперашні даволі жорсткі, складаны час свяшчэннік павінен быць добрым і мяккім альбо строгім і патрабавальным?*

-- І тое, і іншае. Гледзячы на сітуацыю. Мяккасць, дабрыня -- гэта, у першую чаргу, рысы характару.

*-- Хіба н[illegible] прафесійныя якасці свяш[illegible]ніка?*

-- Я б так [illegible] сказаў. Свяшчэннік павінен выконваць свае абавязкі, гэта значыць мець клопат пра душу чалавека. Але калі да яго прыходзіць чалавек сапраўды зранены, то якая тут можа быць [illegible]гасць, якая можа быць па[illegible]авальнасць?! У такім выпадку неабходна мяккасць, ялей на душу.

*-- Ведаеце, чаму я спыталася? Калі вы яшчэ працавалі ў Кафедральным саборы, мне выпадкова прыйшлося бачыць, як вы рэзка выгаворвалі жанчынам, якія прыйшлі прыняць хрышчэнне, што іхнія крыжыкі не адпавядаюць вашым патрабаванням. Я разумею: вы, як і ўсе мы, чалавек жывы, з нервамі, а ў той дзень людзей было шмат. Але я памятаю і разгубленасць жанчын. У нас неяк так атрымліваецца, што чалавека паўсюль не любяць, пачынаючы з выхавальніцы ў дзіцячым садку і заканчваючы інспектарам у пенсійным аддзеле. Таму падспудна жыве ў многіх надзея, што царква -- тое месца, дзе цябе заўсёды чакаюць, дзе цябе не будуць лаяць...*

-- Сапраўды так. Царква -- менавіта такое месца. Але з боку чалавека ёсць парушэнне нейкіх строгіх правілаў, гэта не можа заставацца незаўважаным. Мы ведаем нават практыку адлучэння ад царквы за пэўныя парушэнні. Наогул спадзявацца, што ў царкве кожнага "носяць на руках", няправільна, гэта не тая ўстанова, дзе "кліент заўсёды мае рацыю".

Ды і, урэшце, чалавек можа рабіць дабро толькі тады, калі ставіцца да сябе крытычна, калі валодае разуменнем таго, што ёсць ісціна, праўда, якой ён і павінен прытрымлівацца, якую павінен здзяйсняць. Свяшчэннік, добры і мяккі ў адным выпадку, бывае патрабавальным і строгім, калі бачыць, што чалавек, з якім ён мае зносіны, папросту капрызіць, жадае абавязкова настаяць на сваім. Здараецца, што нехта прыходзіць у храм, не зусім разумеючы, як жа будуюцца адносіны паміж прыхаджанамі і рэлігійнымі служыцелямі. Яны нібыта кажуць: вось я прыйшоў -- вы павінны абслужыць мяне. Але царква -- не бытавое абслугоўванне. Царкоўнае таінства ўздзейнічае не магічна, а пры абавязковай умове, што той, хто прымае таінства, разумее глыбінную сутнасць гэтага акта. Я не апраўдваюся за той, узгаданы вамі выпадак, магчыма, была і стомленасць, і адсутнасць часу размаўляць з жанчынамі, але патрабавальнасць усё ж такі павінна існаваць. Гэта мая прынцыповая пазіцыя.

*-- Георгій Пятровіч, вы родам з Беларусі?*

-- З Беларусі. Нарадзіўся ў Лоеве. Служыў два гады ў арміі на Далёкім Усходзе, потым скончыў семінарыю ў тагачасным Ленінградзе. З 1974 года, калі прыняў сан дыякана, -- свяшчэннаслужыцель.

*-- Раней, мне здаецца, вы мелі немалую цікавасць да палітыкі, у прыватнасці, вас можна было бачыць сярод прыхільнікаў Беларускага Народнага Фронта. Ці захавалася гэтая цікавасць і сёння?*

-- Не. Ды і тады ўласна палітыка мяне не вельмі вабіла. Хутчэй хвалявалі праблемы духоўнага, культурнага адраджэння, адраджэнне самасвядомасці і, безумоўна, праваслаўя. Палітычныя ж гульні -- хто пераможа, хто прайграе -- спачатку трохі мяне і займалі, але даволі хутка я зразумеў, што гэта з'ява нячыстая. Тым не менш і сёння я сачу за дзейнасцю, скажам, БНФ, дзейнасцю іншых арганізацый. Адным магу спачуваць, да іншых стаўлюся крытычна, але заўсёды зыходжу з пазіцыі: наколькі гэта карысна духоўнаму адраджэнню народа.

*-- Калі ўжо ідзе гаворка пра духоўнае адраджэнне Беларусі, то як вы ставіцеся да таго, каб праводзіць набажэнствы на беларускай мове?*

-- Магчыма, мой адказ некага і расчаруе. Але гэтае пытанне ўжо вырашалася, і мы прыйшлі да наступнага выніку. Як вядома, службы ідуць на царкоўнаславянскай мове, бо царква павінна ўзнімаць чалавека над тымі зямнымі праблемамі, што абступаюць яго ў паўсядзённым жыцці. Служба ж на сучаснай мове, няхай сабе рускай, няхай беларускай, не спрыяе таму, не садзейнічае неабходнай узнёсласці малітваў, якія гучаць. Гэтаму якраз дапамагаюць старадаўнія абрады, старадаўнія іконы, старадаўняя мова. Толькі ў такіх умовах чалавек, які пераступае парог царквы, пакідае за ім усякі жыццёвы клопат і сапраўды ўзвышаецца.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ПРЫХАДЖАНЕ КАСЦЁЛА СВЯТОГА АЎГУСТА – БЕЛАРУСКІМ ДЗЕЦЯМ

Імя Пётры Чайкоўскага добра вядома нашым чытачам. Ураджэнец Беларусі, ён ужо доўгі час жыве ў Лідсе (Вялікабрытанія). Нагадаю, што семнаццаць гадоў таму, калі былі ў яго праблемы са здароўем, заняўся ён фізічнай трэніроўкай і хутка пачаў браць удзел у марафонскіх турнірах. І было іх у яго жыцці 37. Пасля выбуху на Чарнобыльскай АЭС, даведаўшыся аб той навале, якая напаткала яго Бацькаўшчыну, задумаўся Пётра аб тым, як дапамагчы бязвінным ахвярам. Ён знайшоў вельмі ўдалы тактычны ход. Праз свой удзел у марафонах пачаў Пётра прыцягваць увагу грамадскасці да чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі, і людзі адгукнуліся. На працягу ўжо некалькіх гадоў збіраюцца ахвяраванні, каб дапамагчы беларускім дзецям. Шмат у чым тут таксама дапамог і падказаў Лонданскі камітэт дапамогі ахвярам Чарнобыля, які мае сталыя кантакты з Беларуссю і аб дзейнасці якога мы ўжо неадназова пісалі ў "Голасе Радзімы".

Але ў апошні свой прыезд на Радзіму гэтым летам зайшоў Пётра Чайкоўскі ў рэдакцыю нашай газеты, каб праз яе падзякаваць і расказаць аб сваіх верных памочніках, тых чулых, шчодрых, добразычлівых людзях, дзякуючы якім былі сабраны тысячы фунтаў стэрлінгаў на набыццё лекаў, медыцынскай апаратуры, а таксама на наладжванне летняга адпачынку беларускіх дзетак. Першым яго памочнікам у гэтай справе стаў прападобны Сін Даркэн -- святар касцёла Святога Аўгуста, што ў Лідсе, прыхаджанінам якога з'яўляецца і сам Пётра.

Адразу пасля таго, як наш суайчыннік пазнаёміў свяара касцёла з сітуацыяй у Беларусі, якая пацярпела ад Чарнобыля больш за іншыя краіны, даў пачытаць бюлетэні, выдадзеныя ў Лондане, пра вынікі катастрофы, ужо ў наступным набажэнстве і шмат-шмат разоў потым святар гаварыў сваім парафіянам аб Чарнобылі, аб хворых дзецях, што патрабуюць дапамогі: "Мусіць няма ў свеце ні адной асобы, якая б не чула назоў Чарнобыль. Для большасці з нас гэта перасцярога аб далёкай жахлівай небяспецы. Для іншых Чарнобыль стаў жывым пеклам. Наш святы і хрысціянскі абавязак -- дапамагчы беларускім дзецям". Далей ён заклікае прыхаджан падпісаць грашовую ахвяру і ўкласці ў канверцікі, падрыхтаваныя каля ўсіх уваходаў у касцёл, зверху пазначыць "Марафон". Час ад часу звесткі пра Чарнобыль і пра ўдзел Пётры Чайкоўскага ў марафонах можна прачытаць і ў штотыднёвым бюлетэньчыку парафіі.

4 гадзіны 10 хвілін 58 секунд -- вось такое цудоўнае дасягненне шасцідзесяцівасьмігадовага, нестарэючага Пётры Чайкоўскага ў яго апошнім забегу ў Лонданскім марафоне. І зноў прыхаджане касцёла Святога Аўгуста падтрымалі яго ініцыятыву і ўнеслі свой уклад у закупку ўжо другога апарата, з дапамогай якога беларускія лекары змогуць беспамылкова і своечасова паставіць дыягназ хворым дзецям. Відавочна, што гэта самая эфектыўная дапамога, якая зараз так патрэбна нашым дзецям.

Ад імя тых, хто жыве на гэтай зямлі, мы хацелі б выказаць шчырую падзяку ўсім ахвярадаўцам і асабліва прыхаджанам касцёла Св. Аўгуста і прападобнаму Сіну Даркэну за тое, што яны прынялі да сэрца нашу бяду і прыйшлі на дапамогу.



Няхай Бог узнагародзіць іх за шчодрасць, чуласць і міласэрнасць.

**НА ЗДЫМКУ: святар касцёла Святога Аўгуста ў Лідсе прападобны Сін ДАРКЭН.**

The name of Peter Tchaikovsky is well-known to the readers of "Holas Radzimy". Peter is a native of Belarus but long lives in Great Britain. It should be noted that for about 17 years ago he began to take part in marathons. After the explosion at the Chernobyl Nuclear Power Station he tried to find a way of assisting the innocent victims of this world worst disaster.

It was a brilliant idea to appeal for sponsorship by means of his participation in marathons. As a parishioner of St. Augustine's Church he told the priest of the paraphia about the consequences of Chernobyl in Belarus, which suffered more than any other country from that explosion, gave him to read some Newsletters in English about the situation in his native country after the catastrophe.

Soon after the Reverend Sean Durcan spoke to the parishioners: 'There must be very few people in the world who have not heard the name "Chernobyl". For the majority of us it serves as grim warning of a great but distant danger. For others Chernobyl has become a living nightmare. Please help us to help doctors save lives of Belarusian children. There are sponsor forms at all Church entrances'.

The parishoners responded with great generosity. They sponsored Peter to raise money for buying medicine, medical supplies and equipment, contributed to arranging summer holidays for Belarusian children. The Radiation Relief Appeal Committee in London has bought the things and brought them to Belarus. There is still a great shortage of modern medical equipment in the country. Peter and his partners realize that success of medical treatment largely depends on early discovery and identification of the illness.

Once again this year Peter ran the London Marathon and completed it in 4 hours 10 minutes 58 seconds. It is a wonderful achievement for a man aged 68! And once again his true friends sponsored him to raise money to buy another scanner that will accelerate screening and monitoring victims of the 1986 catactrophe in Belarus who suffer digestive, nervous, respiratory and other disordes. Definetely this is the most effective way of assistance.

On behalf of all Belarusian children and their parents we should like to express our sincere thanks to the Reverend Sean Durcan, the parishioners of St. Augustine's Church and all other people involved for their kindness, generosity and caring.

May God bless your thoughtfulness and mercifulness.

**Taissa BANDARENKA.**

---

**Шаноўная рэдакцыя!**

**Толькі што выйшла з друку невялікая, з густам афармленая, свежая па матэрыяле кніжка Льва Мірачыцкага "Светлым ценем Адама Міцкевіча. Эміграцыя з Наваградчыны". Побач з аўтарам тэксту над ёю дбайна і бескарысліва працаваў мастак Віктар Сташчанюк. На жаль, атрымаўся прыкры недагляд: прозвішча мастака ў кнізе не пазначана. Упушчэнне зроблена і ў тым месцы, дзе пазначаны рэквізіты: недакладна ўказаны валютны рахунак для магчымых ахвярадаўцаў. Калі такія знойдуцца, дык могуць пералічыць сродкі на карэспандэнцкі рахунак N 200 067 519 у АКБ "Белзнешэканомбанка". Валютны рахунак 070 166. З паметкай: Яўгену Лецку на выдавецкую дзейнасць і перасылку пошты.**

**Названыя хібы выніклі па недаглядзе людзей, якія рыхтавалі арыгінал-макет кнігі, да іх ніякага дачынення не маюць службы Паліграфкамбіната імя Якуба Коласа, дзе кніжка выйшла ў вельмі сціслы тэрмін і ў бездакорным выкананні, за што пры нагодзе выдавецкі цэнтр "Бацькаўшчына" выказвае шчырую ўдзячнасць.**

**Яўген ЛЕЦКА, кіраўнік ВЦ "Бацькаўшчына".**

# БЕЛАВАЛОСЫ КОНСУЛ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

Нельга было выбраць чыноўніка з большымі заслугамі і пры гэтым настолькі сціплага, які б да такой ступені адпавядаў свайму прызначэнню". Гашкевіч, будучы перакладчыкам, праявіў дыпламатычную тактоўнасць у зносінах з японцамі і здолеў "без усялякай ганарыстасці ўнушыць ім высокае паняцце аб Расіі". Менавіта таму граф Пуцяцін рэкамендаваў Расійскаму МЗС прызначыць Гашкевіча консулам у Японіі. З 1858 па 1865 год Іосіф Гашкевіч быў першым консулам Расійскай імперыі ў Японіі. Японцы з любасцю называлі яго "белавалосым консулам".

Консульства пачало сваю дзейнасць тады, калі японцы вельмі насцярожана ставіліся да іншаземцаў, якім было забаронена нават уязджаць у глыбіню краіны.

Расійскае консульства размясцілася ў незамярзаючай гавані горада Хакадата, што на поўначы Японіі, на востраве Хакайда. Прадстаўнікоў консульства японцы паважалі. У афіцыйных паперах МЗС значылася: "Расія выказвала Японіі поўную добразычлівасць, а знаходжанне там рускіх падстаў для ўзлавання на іх не давала". Пры І.Гашкевічы японцам аказвалася бескарыслівая медыцынская дапамога, пры консульстве для японскіх дзяцей была адчынена руская школа.

Марскі афіцэр у консульстве навучаў японцаў асновам мараплавання, суднабудавання і нават артылерыі. Клопат і сяброўскія адносіны Гашкевіча да японцаў праяўляліся і ў яго паўсядзённым жыцці. Консульства ў Хакадата было па-сапраўднаму гасцінным домам для ўсіх.

І.Гашкевіч вёў мудрую палітыку, ніколі не дапускаючы ўмяшання ва ўнутраныя справы Японіі. Ён ведаў сваю справу і рабіў яе добразычліва, абыходзячы "пасткі", якія ўзнікалі пры тых гістарычных абставінах. Расіі ўдалося папярэдзіць набліжэнне ваеннага канфлікту на востраве Цусіма толькі дзякуючы ўменню і тактоўнасці "белавалосага консула".

А калі рэскрыптам японскага імператара Камэй было абвешчана аб выгнанні іншаземцаў, у Хакадата пачалася паніка. Жыхары баяліся, што пачнецца вайна. Хтосьці пусціў чутку, што руская ўжо рыхтуюцца да захопу. Тады Гашкевіч, не лічачыся з небяспекай, пачаў хадзіць па вуліцах і супакойваць японцаў: "Калі ласка, супакойцеся, вайны не будзе!"

І.Гашкевіч і яго калегі былі першымі іншаземцамі, якім японцы дазволілі ездзіць да двара сёгуна ў Эда (Токіо). Японцы нізка кланяліся перад канго, у якім неслі консула. У Эда Гашкевіч выконваў абмен ратыфікацыйнымі граматамі Эдоскага дагавора аб гандлі і мараплаванні, што для Расіі было вельмі важна.

З 50 гадоў жыцця 24 былі праведзены ў чужых краінах. Апошнія дні 1865 года знаходжанне Гашкевіча у Хакадата было цяжкім. Памерла жонка, якую ён пахаваў на японскай зямлі, згарэў консульскі дом, а ў ім і найбагацейшая бібліятэка. Ён быў адзінокім і стомленым. Да таго ж і на радзіме яго ніхто не чакаў. Аднак, як ніколі, яго адольвала жаданне сесці за пісьмовы стол і працаваць.

І.Гашкевіч пачаў працу над сваёй кнігай "Аб каранях японскай мовы". Гэты падручнік стаў асноўнай лінгвістычнай спадчынай І.Гашкевіча, і для многіх пакаленняў японазнаўцаў з розных краін свету кніга з'яўляецца настольнай.

Пасля вяртання ў Пецярбург у 1865 годзе І.Гашкевіч удзельнічае ў стварэнні інстытута саветнікаў з прадстаўнікоў японскай нацыі, якія потым працавалі дыпламатамі, выкладчыкамі рускай мовы. Гашкевіч ніколі не забываўся пра свае навуковыя інтарэсы. Фонды Заалагічнага музея значна папоўніліся калекцыямі "консула ў Японіі".

У МЗС быў аб'яўлены загад А.Гарчакова аб прызначэнні І.Гашкевіча драгаманам V класа пры Азіяцкім дэпартаменце. Аднак Іосіф Антонавіч, маючы цягу да сваёй радзімы-Беларусі, пакідае дыпламатычную службу. Ён купляе маёнтак у вёсцы Малі (Астравецкі раён Гродзенскай вобласці), дзе да сканчэння сваіх дзён займаецца ўсходняй філалогіяй. Ён памёр у кастрычніку 1872 года і пахаваны на прыходскіх могілках у вёсцы Астраўцы. Ужо пасля смерці, у 1899 годзе, у Вільні выйшла яго кніга "Аб каранях японскай мовы".

Памяць нашага земляка ўшаноўваецца ў Японіі. Яго імем названы заліў у Японскім моры, некаторыя віды апісаных ім рэдкіх насякомых. У Хакадата ўстаноўлены бюст нашага вялікага земляка. Аўтар яго -- вядомы японскі скульптар С.Судзукава -- займаўся глыбокімі гістарычнымі даследаваннямі эпохі ўстанаўлення і развіцця адносін паміж Расійскай імперыяй і Японіяй. Асобае месца ў сваіх вышуках С.Судзукава прысвяціў дыпламатычнай, лінгвістычнай і этнаграфічнай дзейнасці І.Гашкевіча, ставячы яго ў адзін рад з самымі выдатнымі даследчыкамі Японіі, яе народа, яго мовы.

Вяртаючыся да пачатку артыкула, варта падкрэсліць той факт, што і на яго радзіме, у Беларусі, імя Гашкевіча не павінна быць забыта. Цяжка пераацаніць значэнне І.Гашкевіча ў дыпламатыі, у арыенталістыцы і ў многіх іншых галінах навуковай дзейнасці. Як бы хацелася, каб, успамінаючы першага консула Расіі ў Японіі, высока ацэньваючы яго дзейнасць, талент, чалавечую сумленнасць, сціпласць, не забываліся пра яго працу на Беларусі. Тым больш, што сапраўдная радзіма І.Гашкевіча толькі пачынае ўсталёўваць дыпламатычныя адносіны з Японіяй.

Вяртанне памяці аб "белавалосым консуле" важнае для нас яшчэ і тым, што яго імя аб'ядноўвае нашы народы, якія ў геаграфічным плане далёкія адзін ад аднаго. Але, без сумнення, можна сцвярджаць, што, вяртаючы І.Гашкевіча народам Беларусі і Японіі, мы будзем толькі спрыяць узаемнаму ўзбагачэнню нашага нацыянальнага і духоўнага патэнцыялу.

Мы знаходзімся ля вытокаў гэтага важнага працэсу. І зараз успамінаецца люты 1991 года, калі дэлегацыя Рэспублікі Беларусь упершыню на афіцыйным узроўні ўзняла пытанне аб вяртанні і ўвекавечванні памяці І.Гашкевіча. Рэакцыя не прымусіла сябе доўга чакаць. Шмат важных падзей адбылося з таго часу, і вось у гэтым годзе, дзякуючы нашым агульным намаганням, мы адкрываем у Астраўцы помнік вялікаму сыну зямлі беларускай. Яшчэ раз скажам шчырае дзякуй усім, хто як на Беларусі, так і ў Японіі пачынаў і працягвае, нягледзячы ні на якія цяжкасці, працэс вяртання на Бацькаўшчыну Іосіфа Гашкевіча. Вяртання ўсім нам гістарычнай памяці, без якой немагчыма ўмацаванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

**Пётр КРАЎЧАНКА.**

137

## 19.2. Як рабочы сацыялізм ужываўся на Беларусі

**МАРКСІЗМ -- ІДЭАЛОГІЯ ДЛЯ ГАРАДЖАН.** Рабочы сацыялізм не мог знайсці сабе спрыяльную глебу сярод сельскагаспадарчых працаўнікоў, рассыпаных па вёсках, маёнтках і фальварках. Толькі ў беларускіх гарадах і мястэчках, якія поўніліся яўрэйскай пралетарызаванай беднатой, ён знаходзіў спачуванне. Штучна сціснутыя з 1882 года ў межах гарадскіх паселішчаў яўрэйскія рабочыя душыліся ў барацьбе за кавалак хлеба і задыхаліся ад беспрацоўя. Разам з імі пакутавалі і рабочыя іншых нацый. Але беларусы складалі толькі каля 9 працэнтаў рабочага прамысловага люду мясцовых гарадоў.

**СТАНОВІШЧА РАБОЧЫХ.** Прыгнёт прамысловых рабочых у канцы XIX стагоддзя быў тут страшэнным. Рабочы дзень на фабрыках доўжыўся не менш 13 гадзін, у рамесных майстэрнях -- да 16 гадзін, а напярэдадні кірмашоў рабочыя не пакідалі прадпрыемстваў і па 18 гадзін у суткі. Ва ўмовах расійскай каланізацыі прамысловасць трымалася толькі на празмернай эксплуатацыі таннай рабочай сілы. Аховы працы не было ніякай. На тытунёвых фабрыках рабочыя задыхаліся ад нікаціну, у друкарнях труціліся ядавітым свінцовым пылам, на запалкавых фабрыках -- парай серы і фосфару. "Добраахвотных катаржнікаў" чакалі цяжкія хваробы і заўчасная смерць.

138

**БАРАЦЬБА РАБОЧЫХ ЗА ПАЛЯПШЭННЕ ДАБРАБЫТУ.** Не дзіўна, што ў такіх умовах рабочы рух на Беларусі пачаўся вельмі рана. Першыя стачкі рабочых адбыліся ў 70-х гадах. Побач з яўрэйскім пралетарыятам актыўную страйкавую барацьбу вялі хрысціянскія рабочыя чыгуначных майстэрань Мінска, Гомеля, Пінска. Самая вялікая стачка XIX стагоддзя ў маштабах беларускага краю адбылася ў 1895 годзе ў Беластоку. У ёй удзельнічала да 20 тысяч рабочых-тэкстыльшчыкаў, сярод якіх былі яўрэі, немцы, палякі, беларусы. Аднак рабочы рух на Беларусі па складу яго ўдзельнікаў быў пераважна яўрэйскім, бо і сярод прамысловых работнікаў большасць тут складалі яўрэі. Толькі гэта зусім не азначае, што яўрэйскі рабочы рух не ўплываў на лёс беларускага народа.

Рабочыя змагаліся за павышэнне заробкаў, скарачэнне працоўнага дня, адмену штрафаў. Цяжкія ўмовы жыцця прымушалі іх арганізоўвацца і ратавацца ад здзекаў прадпрымальнікаў значна раней, чым у цэнтральнай Расіі. Старыя яўрэйскія рэлігійныя брацтвы ператвараліся ў патаемныя страйкавыя касы (зародкі будучых прафсаюзаў). Яны падтрымлівалі збяднелых і бастуючых. Першая страйкавая каса ўзнікла ў сярэдзіне 80-х гадоў сярод мінскіх слесараў пры ўдзеле Вацлава Сяліцкага -- аднаго з першых марксістаў Беларусі. У Вільні такія ж касы пачалі ўзнікаць з 1888 года пад кіраўніцтвам сацыял-дэмакрата Крамера і пад уплывам Саюза польскіх рабочых. Паступова вакол страйкавых кас гуртаваліся першыя сацыял-дэмакратычныя арганізацыі.

139

**ПАШЫРЭННЕ МАРКСІЗМУ СЯРОД РАБОЧЫХ.** Увогуле, марксісцкі туман вельмі рана з'явіўся на Беларусі. Ён стаў магчымым пры поўнай палітычнай пасіўнасці арыстакратыі -- аграрная моўчкі разбуралася, а грашовая толькі ўзнімалася. Ужо ў пачатку 80-х гадоў сотні рабочых Мінска наведвалі марксісцкія асветніцкія гурткі. З канца 80-х гадоў на Беларусі з'явіліся палітычныя ўлёткі і брашуры на мове "ідыш". У 1892 годзе ў Вільні ўпершыню святкавалася 1 Мая. У 1895 годзе Першамайскае свята адзначалі рабочыя Мінска. Рабочы сацыялізм успрымаўся інтэлігенцыяй і некаторымі прыціснутымі да долу працаўнікамі як выратаванне, як новая рэлігія. Але большасць мясцовых рабочых не мела ніякага ўяўлення аб сацыял-дэмакратыі. Асноўную ролю ў рабочым руху адыгрывалі тады эканамічныя страйкавыя касы.

**ПОЛЬСКІ САЦЫЯЛІЗМ.** Кожная нацыя прыстасоўвала марксісцкую дактрыну да сваіх інтарэсаў, бо любыя тэорыі свядома ці падсвядома выкарыстоўваюцца для самазахавання той ці іншай нацыянальнай супольнасці. Узнікшая ў 1892 годзе Польская партыя сацыялістычная (ППС) пашырыла свой уплыў на заходнюю Беларусь і першай паставіла пралетарскую салідарнасць на службу імперскай ідэі ўзнаўлення Польшчы ў межах 1772 года.

**ЯЎРЭЙСКІ САЦЫЯЛІЗМ.** З сярэдзіны 90-х гадоў пачынаецца рух за стварэнне яўрэйскай рабочай партыі. І такая партыя ў 1897 годзе была закладзена ў Вільні пад назвай "Агульны яўрэйскі рабочы саюз ў Літве і Польшчы", а для кароткасці проста -- Бунд, што азначае саюз.

140

Трохі пазней Цэнтральны камітэт партыі вымушаны быў перабрацца з Вільні ў Мінск. Бунд набыў вялікі ўплыў на яўрэйскіх рабочых. Выратаванне свайго народа Бунд звязваў з сацыялістычнай Расійскай імперыяй. Таму адразу ж пасля афармлення пачаў захады па стварэнню рускай марксісцкай партыі.

**РАСІЙСКІ (РУСКІ) САЦЫЯЛІЗМ.** Першы з'езд Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (РСДРП) адбыўся ў 1898 годзе ў Мінску, важнейшым цэнтры Бунда. Менавіта ён узяў на сябе ролю тэхнічнага арганізатара з'езда, а потым увайшоў у склад РСДРП як аўтаномная адзінка. Літоўскія сацыял-дэмакраты ад удзелу ў з'ездзе адмовіліся. ППС не запрашалася. Заснавальнікі расійскай рабочай партыі знайшлі актыўную падтрымку з боку рускай інтэлігенцыі Мінска. Падрыхтоўка да з'езда вялася пад выглядам арганізацыі гарадскога "Таварыства аматараў прыгожых мастацтваў". Мясцовая моладзь фактычна ўратавала з'езд ад арышту, разагнаўшы філёраў, што прыехалі з Пецярбурга. Пазней увесь Цэнтральны камітэт партыі і амаль усе дэлегаты ўсё ж трапілі ў турму. За імі сачылі яшчэ з Мінска. Тым не менш, у Беларусі пачалі ўзнікаць расійскія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі, якія, праўда, знаходзіліся пад бундаўскай апекай.

Гэта не магло падабацца рускім сацыял-дэмакратам, якія самі прэтэндавалі на вярхоўнае кіраўніцтва рабочым рухам на Беларусі і ва ўсёй Расіі. Іх новы лідэр У.І.Ульянаў (Ленін) заснаваў за мяжой газету "Іскра" і распачаў ба-

Захар ШЫБЕКА

ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

141

рацьбу за гуртаванне ўсіх пралетарскіх рэвалюцыянераў вакол РСДРП. На ІІ з'ездзе партыі (1903, Бельгія) ён дабіўся ўключэння ў праграму расійскіх сацыял-дэмакратаў палажэння аб дыктатуры пралетарыяту, а ў статут -- прынцыпаў жорсткай дысцыпліны і падпарадкавання цэнтральнаму кіраўніцтву. Ні ў адной еўрапейскай сацыял-дэмакратычнай партыі такога дэспатызму не было. Частка дэлегатаў на чале з Л.Мартавым і Г.Пляханавым выступілі супраць гэтага, але засталіся ў меншасці. Таму іх потым сталі называць меншавікамі, а прыхільнікаў У.Леніна -- бальшавікамі. Першыя сталі на пазіцыях памяркоўнага рабочага сацыялізму еўрапейскага ўзору, а другія прапаведавалі дэспатычны рабочы сацыялізм, скіраваны на дасягненне рускай сацыялістычнай імперыі. З'езд не ўлічыў нацыянальных інтарэсаў яўрэйскай сацыял-дэмакратыі, і Бунд выйшаў са складу РСДРП.

**ЗАМАЦАВАННЕ РУСКАЙ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТЫІ НА БЕЛАРУСІ.** Адразу ж пасля з'езда на Беларусі пачалося другое выданне сацыял-дэмакратычных арганізацый. Замест старых прабундаўскіх ствараліся новыя, падпарадкаваныя перавыбранаму кіраўніцтву РСДРП. Рабілася гэта рукамі рускіх рэвалюцыянераў і тых бундаўцаў, што перакінуліся ў шэрагі расійскай партыі. З 1903 года ў Гомелі працаваў Палескі камітэт РСДРП, а з 1904-га ў Вільні -- Паўночна-заходні камітэт РСДРП. Кожны з іх кіраваў мясцовымі сацыял-дэмакратычнымі арганізацыямі ў сваім абшары.

142

**ДЗЯРЖАЎНЫ САЦЫЯЛІЗМ (ЗУБАТАЎШЧЫНА).** Калі новае кіраўніцтва РСДРП сабе, то царскі ўрад сабе імкнуўся падпарадкаваць Бунд, які стаяў на чале вельмі шырокага і добра арганізаванага яўрэйскага рабочага руху. Калі У.Ленін дзейнічаў ад імя расійскіх сацыял-дэмакратаў, то С. Зубатаў, як працаўнік дэпартамента паліцыі, -- ад імя ўрада, які побач з рэпрэсіямі рабіў спробу абмежаваць рабочы рух эканамічнымі патрабаваннямі да прадпрымальнікаў. За адмову ад палітычнай барацьбы (супраць цара і ўрада) Зубатаў абяцаў не перашкаджаць рабочым праводзіць эканамічныя стачкі.

Такая палітыка "супрацоўніцтва" ўрада з рабочымі атрымала назву зубатаўшчына. Яна пачала праводзіцца з 1900 года менавіта ў Мінску, дзе былі моцнымі пазіцыі прыхільнікаў эканамічных мер барацьбы. Хутка знайшліся і правадыры -- сястра мінскага фабрыканта Маня Вільбушэвіч, Рыгор Шахновіч і іншыя. У 1902 годзе яны ўтварылі "Яўрэйскую незалежную рабочую партыю", якая знаходзілася пад тайным кантролем паліцыі. Пры яе падтрымцы новая партыя правяла шэраг удалых эканамічных стачак і мела ў сваіх радах адным часам больш рабочых, чым Бунд. Многія з рэвалюцыянераў трапілі тады за краты па даносах зубатаўцаў, якія так спрытна ашуквалі паліцэйскія ўлады. Нідзе зубатаўшчына не набыла такіх памераў, як у беларускім краі (Мінск, Вільня, Гродна, Беласток). У Ярцаве Смаленскай губерні былі створаны нават брацтвы рабочых для барацьбы з "крамолай". І ўсё ж зубатаўшчына не змагла

143

прадухіліць тут рэвалюцыйнага ўздыму. А таму царскі ўрад яе проста адкінуў.

**ЯЎРЭЙСКІ НАЦЫЯНАЛІЗМ.** Рабіліся спробы звязаць рабочы рух з сіянізмам, ідэалогіяй нацыянальна-вызваленчай барацьбы яўрэйскага народа. Пасля Усерасійскага з'езда сіяністаў у Мінску (1902) утварылася фракцыя ці партыя рабочых-сіяністаў (паалей-сіён). Бундаўцы таксама на сваім IV з'ездзе (1901) ухвалілі імкненне яўрэйскага народа да культурна-нацыянальнай аўтаноміі. Але пераважная большасць членаў гэтай партыі заставалася на пазіцыях міжнароднага пралетарскага інтэрнацыяналізму, які рэальна вёў іх да поўнага падпарадкавання дыктату рускіх сацыял-дэмакратаў. Яўрэі шукалі паратунку ва ўзнаўленні старажытнай іудзейскай дзяржавы ў Палесціне, у будучай Расійскай сацыялістычнай імперыі, але ім не бачылася магчымасць аўтаномнага жыцця ў вольнай і незалежнай Беларусі. Праўда, беларускі нацыянальна-вызваленчы рух тады толькі зараджаўся.

## 19.3. Аднаўленне народніцтва і абвастрэнне крызісу

**ФАРМІРАВАННЕ ПАРТЫІ ЭСЭРАЎ.** Беларусь была ўсё ж краем сялянскім. Таму і ідэі сялянскага сацыялізму тут былі жывучымі. На рубяжы двух стагоддзяў прыхільнікі народніцкай дактрыны ўзнавілі падрыхтоўку да барацьбы супраць самаўладдзя. Але і на іх ужо ляжаў

144

адбітак марксізму. Таму і назва за імі прыжылася новая -- ужо не народнікі, а сацыялісты-рэвалюцыянеры (с.-р., адсюль -- эсэры).

З 1899 года ў Мінску і яго ваколіцы пачала дзейнічаць "Рабочая партыя палітычнага вызвалення Расіі" (РППВР) неанародніцкага накірунку. Хоць яна і падраблялася пад пралетарскую арганізацыю, але галоўным сродкам дасягнення "рабочай канстытуцыі" выбрала тэрор і шчыравала сярод сялян. Кіраўніцтва знаходзілася ў Мінску і прыгарадным маёнтку Блонь, які належаў старому народніку А.Бонч-Асмалоўскаму. Тэарэтыкам партыі выступала Л.Радзіонава-Клячкіна, якая, праўда, потым выдала арганізацыю. Сябра партыі Р.Гершуні, будучы кіраўнік агульнарасійскай Баявой арганізацыі эсэраў, заснаваў у Мінску майстэрню варштатаў для падпольных друкарань, бюро фальшывых пашпартоў і разам з А.Бонч-Асмалоўскім перапраўляў праз мяжу рэвалюцыянераў і забароненую літаратуру. Партыя змагла пашырыць сваю дзейнасць на Дзвінск і Беласток, але восенню 1900 года была разгромлена.

У гэты час рускія неанароднікі па прыкладу сацыял-дэмакратаў таксама пачалі збіраць пад адно крыло ўсіх прыхільнікаў сялянскага сацыялізму і ў 1902 годзе ўтварылі сваю агульнарасійскую арганізацыю пад назвай Партыя сацыялістаў-рэвалюцыянераў (ПСР). Эсэраўскі ўплыў хутка пашырыўся і на Беларусь. У 1904 годзе тут ужо дзейнічала рэгіянальная Паўночна-Заходняя арганізацыя эсэраў.

## АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ

# ЁН ДАРЫЎ СЯБРОЎСТВА...

Выдатна прайшоў пяцідзесяцігадовы юбілей, колькі цёплых, цудоўных слоў яму было сказана. Сябры з радасцю сустрэлі ўзнагароджанне яго высокім ордэнам.

Адносіны з уладнымі структурамі ў яго былі няпростыя. Ён не быў адкрытым дысідэнтам, але і роля нейкай "шрубкі" яму, выдатнаму пісьменніку і мысліцелю, аніяк не падыходзіла. У 1974 годзе яго выклікалі ў адпаведны будынак і папрасілі тлумачэнняў аб стасунках з некаторымі "апальнымі" навукоўцамі. (Сёння гэты дакумент з'явіўся ў друку і зноў засведчыў гранічную высакароднасць Караткевіча). А колькі гадоў перастрахоўшчыкамі бяздарна марынаваўся раман "Нельга забыць". Помню, неяк курылі мы з ім у мяне на балконе яшчэ на Друкарскай і ў яго вырвалася:

-- Цяпер мяне ўжо з літаратуры так проста не выкінеш -- я ва ўсіх энцыклапедыях...

Шмат чаго стаіць за гэтай фразай. Толькі пазней, з ростам папулярнасці, з ім сталі сур'ёзна лічыцца.

Але стала здаваць здароўе. Усё часцей і часцей трапляў ён у бальніцы, усё часцей на пытанне пра жыццё і здароўе пачынаў скардзіцца. (А раней жа мала хто, як ён, умеў смела адказваць на гэтыя, часам дзяжурныя пытанні бадзёрым: "Выдатна!").

Яму б перайсці на больш ашчадны рэжым, але ён быў вялікім жыццялюбам і не хацеў адмовіцца ні ад адной радасці жыцця.

Ён скардзіўся на ногі, на болі ў жываце. Стаў менш выходзіць з дому. Нешта нездаровае з'явілася нават у яго абліччы. Узнялася неяк грудная клетка, штосьці кволае, хлапечае бачылася ў шыі, як глядзіш ззаду.

Аднойчы, калі Валодзя адпачываў на поўдні, па Мінску прайшла нават чутка аб яго смерці.

Аказалася, у Кактэбелі ён саслізнуў з высокай гары і моцна пабіўся. А тут яму трэба было ехаць у Адэсу на канферэнцыю па праблемах гістарычнай прозы. Падымаючыся ў Сімферопалі па трапу самалёта, ён страціў прытомнасць. Давялося Валянціне мчацца ў Сімферопаль і многа дзён выходжваць яго ў тамашняй бальніцы.

Валянціна здавалася куды мацнейшай, але адышла першай. Прычым зламалася яна неяк адразу. Вось улетку 82-га года мы з Янінай правялі з ёй дзень у Вільнюсе, куды яна ездзіла за пакупкамі. Выглядала вельмі бадзёрай і энергічнай. А Новы год ужо сустракала з цяжкасцю. У лютым яе не стала.

Смерць Валянціны Валодзя перажыў цяжка. Пайшоў вельмі блізкі чалавек. Разбурыўся звыклы ўклад жыцця. За трунною жонкі давялося весці яго пад рукі. Ён яшчэ паспеў паклапаціцца пра жончын помнік, на якім выбіты яго верш -- абяцанак перайсці ўслед за Валяй у родную зямлю...

Неўзабаве мне давялося суправаджаць яго ў санаторый "Сосны" на Нарачы. Саюз пісьменнікаў даў машыну, і мы за некалькі гадзін дабраліся цераз снежную завею да месца. Па дарозе Валодзя ўспамінаў свае ранейшыя прыгоды на Нарачы, сяброўства з нарачанскімі рыбакамі. Але тады было лета, было здароўе, маладосць.

У прывілеяваных "Соснах" ён не прыжыўся, і яго вельмі хутка давялося забраць адтуль у цяжкім стане.

Былі ў яго і апошнія радасці.

У лютым 1984 года пазваніў у абед і папрасіў прыйсці. Навошта -- не сказаў. Не без трывогі з'явіўся я, а ён зірнуў на мяне неяк асабліва пранікліва (маўляў, ведаю, што ты разгублены) і са стрыманым задавальненнем падаў мне кніжку. Гэта быў "Чорны замак Альшанскі" -- надзвычай вынаходліва афармлены Драчовым і любоўна выдадзены "Мастацкай літаратурай". Кніжка атрымалася яркая -- якраз у духу Караткевіча, і ён абзвоньваў сяброў-прыяцеляў, каб парадаваць іх і кніжкай, і шчырымі прысвячэннямі, рабіць якія ён быў вялікі мастак. Як неацэнная рэліквія захоўваецца ў нас гэ[illegible] кніжка з надпісам: "Дарагі[illegible]м сябрам, Генадзю і Яніне [illegible]сялёвым з пажаданнямі ўсялякіх шчасцяў і даброт -- з любоўю Ул. Караткевіч. 8 лютага 84 г."

Між іншым, Яніна была ці не першым чытачом "Замка". Неяк здарылася, што ў [illegible]одзі не было ў гэты моман[illegible]пай машыністкі, і Яніне д[illegible]ося перадрукоўваць твор з аўтографа (было гэта яшчэ недзе ў канцы 70-х гадоў). Цікава, што Караткевіч назваў спачатку свой твор аповесцю. Дык Яніна, аддаючы яму машынапіс, сказала, мажліва, без асаблівага значэння:

-- Якая ж гэта аповесць? Тут цэлы раман.

-- А што -- трэба падумаць, -- адказаў Караткевіч. Відаць, у чымсьці гэта супадала з яго ўнутранымі меркаваннямі.

Вясной 84-га ён доўга ляжаў у лечкамісіі ў рэанімацыі. Лічылася, што ён ужо не паднімецца. Але насуперак усім прагнозам устаў, здавалася, нават някепска ачуняў. Толькі вочы ў яго сталі як быццам новыя, з'явілася ў іх нейкая попельнасць, нібыта ён спазнаў нешта такое, што не кожны спазнае. Як пацяплела, аблюбаваў сабе паблізу ад дома месца ў цэнтральным скверыку, каля добра вядомага мінчанам і гасцям сталіцы залачонага хлопчыка з лебедзем. Сядзеў на лаўцы, перагортваў прынесеныя з дому кнігі і часопісы. Палыхваў сваім нязменным "Беламорам". Мы не адзін раз падыходзілі да яго з дачкой Наташай, калі я вёў яе са школы (Наташчына 4-я школа побач з філфакам і Ленінскай -- цяпер Нацыянальнай -- бібліятэкай, і ісці дамоў нам было якраз праз сквер). Валодзя яшчэ ўшчуваў, чаму нясу за Наташку партфель -- не педагагічна. Часам яго пазнавалі людзі, спыняліся, прысаджваліся. І ён, бывала, скардзіўся пасля, што вось нідзе не схаваешся -- не даюць нават пачытаць. Але адчувалася, што ў душы ён задаволены, што на людзі яго цягне.

Летам я з сям'ёй паехаў адпачываць на вёску ў Астравецкі раён, дзе нас цудам знайшла тэлеграма Адама Мальдзіса. Цудам, таму што дакладнага адраса Мальдзіс не ведаў, у тэлеграме шмат чаго было перакручана, але галоўнае мы, не хочучы верыць, зразумелі: памёр Уладзімір Караткевіч, пахаванне ў пятніцу 13.30...

Некалькі, пад канец, рысак.

Апошнія гады нездароўе раздражняла яго, і ён мог быць рэзкім і несправядлівым да людзей блізкіх. Але добрым і шчодрым ён заставаўся заўсёды. Калі, здаралася, мы прыходзілі ў госці без дзяцей, то на развітанне ён заўсёды клапаціўся, каб Валянціна паслала ім які гасцінец. Да мяне ён час ад часу падступаўся з "мужчынскай" размовай:

-- Слухай, стары, можа табе грошы патрэбны?

-- Не, Валодзя, пакуль зарабляю сам.

-- Ды што там вашы акадэмічныя заробкі. Да таго ж бываюць жа ў мужчын, сам разумееш, свае выдаткі.

У мяне такіх выдаткаў не было, я адмаўляўся, але слухаць гэта было надзвычай прыемна. Не кожны брат будзе такім уважлівым. Дарэчы, ад яго ж я чуў, што многія бралі ў яго грошы без аддачы.

Любіў тэлевізар, глядзеў шмат якія перадачы, прыгодніцкія фільмы, мульцікі. У мяне выпадкова захавалася старая газета з тэлепраграмай, дзе яго рукой адзначана, што паглядзець. Інтарэсы шырачэзныя.

Дзіўна, але красвордамі, памойму, не захапляўся, хоць пры яго багатых, разнастайных, часам нечаканых ведах гэта магло быць някепскай трэніроўкай.

Згуляць у шахматы не выказваў ахвоты, хоць мы і падарылі яму неяк пры выпадку адмысловы сувенірны камплект. Гэта не перашкодзіла яму с імпэтам і смакам распісаць шахматную гульню ў "Ладдзі роспачы".

Апошнім часам, прыхварэўшы, быў не супраць дзеля адпачынку згуляць у карты. Любіў "тысячу" -- сапраўды някепскую гульню, якая добра мадэлюе жыццё, з яе логікай і нечаканасцямі. Хоць гулялі мы не на "інтарэс", ён ставіўся да гульні вельмі сур'ёзна. Прыносіў ліст добрай паперы, сам асабіста разграфляў яе шарыкавай ручкай з чорным стрыжнем. Умудраўся без лінейкі праводзіць амаль ідэальна простыя лініі, прычым хваліўся -- гэта што, у маладосці ён мог правесці яшчэ прамей. Гуляў з найвялікшым захапленнем, радуючыся свайму поспеху, а няўдача кідала яго ў бездань адчаю. Калі б ён нават хацеў схаваць сваю рэакцыю, усе эмоцыі адразу адбіваліся на твары. Мяне пастаянна падазраваў у недазволеных хітрасцях, хоць, здаецца, гэта мне зусім неўласціва. Быў шчаслівы, выйграўшы.

Чамусьці вельмі не любіў, калі крытыкі называлі яго рамантыкам, хоць пры яго эрудыцыі не мог не разумець, што яго творчасць уяўляе сабой сплаў, сінтэз рэалістычных і рамантычных рыс. Але ў яго была зусім іншая мера рэальнага ў жыцці. Ён лічыў, што ўсё тое яркае, пра што ён піша, сапраўды растворана ў жыцці, толькі мы гэтага не заўважаем. І трэба сказаць, што жыццё вельмі падтрымлівала Караткевіча ў такім перакананні. З ім сапраўды здаралася шмат незвычайнага. Узяць хаця б апошнюю паездку ў Мсціслаў, калі машына, у якой ён ехаў, апынулася ў шматгадзінным снегавым палоне.

-- А ты бачыў, -- узбуджана пытаўся ён у мяне, калі мы чарговы р[illegible]гаварылі пра рэальнае і р[illegible]нтычнае ў жыцці і літаратуры, -- каб малпа проста так на вуліцы скакала па плячах прахожых? А я гэта бачыў у Брэсце, як прыязджаў на сустрэчу з чытачамі.

Мне [illegible]вялося з ім прысутні[illegible] у медыцынскім інстыту[illegible]на вечары, прысвечаным стагоддзю Якуба Коласа. Ён расказаў студэнтам-медыкам, што Коласава кніга некалі вельмі даўно выратавала яму жыццё. Яна была ў яго за поясам і прыкрыла яго ад нажа нейкага хулігана.

Пісаў ён толькі аўтаручкай, чорным чарнілам. Почырк вельмі роўны, прыгожы, убористы (па прыгажосці, зграбнасці яго почырк нагадвае мне почырк Уладзіслава Сыракомлі, думаю, што яны блізкія нечым і як чалавечы тып). Любіў добрую паперу. З адной старонкі яго пісання выходзіла ці не дзве нармальныя машынапісныя старонкі. Калі камісія па творчай спадчыне Караткевіча разбірала яго архіў, то я не паверыў спачатку Янку Брылю, які сцвярджаў, што ў адной тоўстай такі папцы са спісанымі Караткевічам лістамі заключаюцца абедзве кнігі "Каласоў пад сярпом тваім". Мне -- вопытнаму архівісту -- гэта здавалася неверагодным. Меў рацыю ўсё-такі Янка Брыль.

Спачатку Караткевіч рабіў падрабязны, дэталёвы план будучай рэчы. Як бы канспект. А потым пісаў ужо канчаткова, амаль без памарак.

Творчая патэнцыя ў яго была магутная. Да 100-годдзя Янкі Купалы ён абяцаў тэатру юнага гледача п'есу пра маладосць вялікага песняра. Я працаваў тады над зборнікам дакументаў і матэрыялаў пра Купалу і прынёс яму рукапіс зборніка, трохі паўнейшы за выдадзены потым варыянт. Ён зацікавіўся паплечнікам Каліноўскага Зыгмунтам Чаховічам, які аказаў вялікі ўплыў на маладога Купалу, і папрасіў у мяне дадатковых матэрыялаў пра Чаховіча. Я прынёс яму архіўныя выпіскі, кнігу мемуараў Гейштара з біяграфічнай даведкай пра Чаховіча. У даведцы быў радок, што Чаховіч, вярнуўшыся праз многа гадоў з катаргі і атрымаўшы яшчэ праз многа гадоў спадчыну, разлічыўся за даўгі неймаверна далёкага ўжо па часе паўстання. За гэта Караткевіч і ўхапіўся. Для яго гэта быў мастацкі ключ, якім удалося адкрыць многае -- і характар самога Чаховіча, і важную сюжэтную лінію п'есы. Ён быў задаволены і, помніцца, гаварыў:

-- Вы, гісторыкі, не заўсёды звяртаеце ўвагу на галоўнае.

Саму п'есу "Кальіска чатырох чараўніц" Караткевіч напісаў вельмі хутка, па-мойму, ці не за пару тыдняў, хоць чуўся тады вельмі кепска. Калі я чытаў яе, то дзівіўся, якое яркае мастацкае асвятленне знайшлі ў творы ўвогуле даволі знаёмыя мне факты.

Ён марыў працягваць работу над "Каласамі", хоць, магчыма, гэта перспектыва яго недзе і палохала. Пасля напісання першых дзвюх кніг прайшло ці не два дзесяткі гадоў. Паступова мяняліся погляды на жыццё і мастацтва. І ўсё-такі аб працягу ён думаў. Нават незадоўга да смерці, у 84-м годзе, ён мне неяк сказаў:

-- Увосень прынясеш мне Гейштара.

Растлумачу: мемуары Гейштара -- адна з асноўных крыніц па гісторыі паўстання Каліноўскага. Усё-такі яно, паўстанне, цягнула, вабіла яго.

Да восені яму не суджана было дажыць.

Ён пакінуў нам хрустальны замак сваёй творчасці, куды будуць прыходзіць усё новыя і новыя пакаленні прыхільнікаў, і ўсё новыя пакаленні даследчыкаў будуць біцца над яго загадкамі.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у №№ 33, 34.**

*ЦІ ТОЛЬКІ МУЗЕЙНЫ ЭКСПАНАТ?*

# ЭХ, ЛАПЦІ МАЕ, ЛЫКАВЫЯ!

Аднойчы мне давялося расказваць пра народнае мастацтва ды традыцыйныя рамёствы ў адной вясковай школе. Прыгадваецца, я тады гаварыла пра саламяныя павучкі ды сявенькі, пра гліняныя гаршкі ды цацкі-свістулькі, якія ў нашых мясцінах маюць назву пасвісцёлы, пра ручнікі ды тканыя паясы, пра кашулі-вышыванкі і многае іншае, што ствралася ў даунія часы рукамі нашых продкаў. Адначасова дэманстравала некаторыя прадметы з фондасховішча музея. Дайшла чарга да лапцей. Толькі пачала апавядаць пра традыцыйны сялянскі абутак, як адзін бялявы хлапчук пытае:

-- А чаму лапці такіх вялікіх памераў? Хіба ў прадзедаў нага была, як у снежнага чалавека?

-- Неразумны ты, Пецька. Хіба не ведаеш, што вакол нашай вёскі балота было. А як ты пройдзеш праз балоцістую мясціну ў малых ды вузкіх лапцях? Патануць лёгка, а шырокія лапці -- яны як лыжы...

Старэйшая па ўзросту дзяўчынка з смешнымі хвосцікамі і сімпатычнымі ямачкамі на шчочках паспешна адказала першакласніку Пеці. Іншыя дзеці слухалі ціха-ціха, бадай, з такой жа цікавасцю, як слухалі б пра лятаючую талерку.

На перапынку маладая настаўніца мне кажа: "Даруйце, але я таксама нічога не ведала пра лапці. Гараджанка сама, накіравалі ў вёску. Бачыла ў бабулі некалі на гарышчы, але чаму вялізныя, як іх плялі і з чаго, ніколі не задумвалася. Добра, што дапытлівы Пеця не паспеў мяне пра лапці запытаць", -- засмяялася яна.

...Некалі не было прадпрыемстваў на Беларусі, якія выраблялі абутак. А калі здаралася, што з далёкага краю купцы прывозілі мадэльныя боцікі ці чаравікі, надта бедны быў наш продак, каб дазволіць сабе купіць такую дарагую рэч. Да таго ж непрывычныя былі беларусы да такога абутку, а потым -- кругом мясціны балоцістыя, дзе там па іх у чаравіках пройдзеш. Вось і плялі сабе лапці.

У вольны ад работы час, пераважна зімовымі вечарамі, збіраліся маладыя, а часам каля іх і людзі больш сталага веку ў кагосьці аднаго ў хаце на вячоркі. Гарэла лучына ці лямпа, спявалі народныя песні дзяўчаты, спраўна працавалі рукі, збліжаліся душы. Хто кросны ці паясы ткаў, хто кудзелю праў, хто карункі вязаў ці сарочку вышываў. Хлопцы ж займаліся сваёй "мужчынскай" справай: выразалі прасніцы, вільчакі для прычэлін, ліштвы на вокны, лыжкі ды каўшы з дрэва, плялі калыскі, кашы, сявенькі, лубкі, брылі з саломы, яловых ды сасновых карэнняў, разнастайных гнуткіх пруцікаў, словам, з любога даступнага мясцовага матэрыялу. Некаторыя плялі лапці. Праца, песня, жарты, смех, пах прыродных матэрыялаў, узаемаразуменне і шчырасць уладарылі на вячорках, ствараючы своеасаблівы творчы настрой. Дзяўчаты непрыкметна сачылі за хлопцамі, а тыя ў сваю чаргу выбіралі кожны па свайму густу нявесту.

У адзін з такіх па-сапраўднаму святочных вечароў малады Фёдар Гурыновіч, знакаміты цяпер бондар у Панямонні, таксама быў заняты справай -- плёў лапці з ліпавага лыка. Ягоныя лапці былі "зрачыя" -- мелі пасярэдзіне так званае "вока".

Аборкі майстар зрабіў таксама з лыка. Атрымалася нядрэнна. У тыя трыццатыя гады ўжо нашага, вядома, стагоддзя можна было абысціся без лапцей, бо хапала крамнага абутку. Хлопец жа сплёў лапці, каб хадзіць у іх калядаваць. У тых мясцінах моладзь на Каляды імкнулася апрануцца ды абуцца па-старадаўняму. Даўно гэта было. Але лапці, сплеценыя Фёдарам Гурыновічам з Мастоў, захаваліся да нашых дзён. Свае "калядныя" лапці майстар падараваў Гродзенскаму дзяржаўнаму гісторыка-археалагічнаму музею, дзе звычайныя лыкавыя лапці набылі статус экспаната.

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# ДРАМА АДНАГО ЖЫЦЦЯ

(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).

**За ўсё дасланае дзякуй, як за віншаванні з блокаўскай кніжкай. Спадзяюся, што ў будучыні адкажу больш аператыўна. Уся бяда ў тым, што ў гэты час па горла заняты дысертацыяй. Праз пару тыдняў хачу завяршыць па другому кругу і аддаць... Экземпляры кнігі пра Блока ў мяне ёсць, перапраўілі з Мінска. Знайду час -- абавязкова вышлю. Так што спадзявайся.**

**Пішы, што табе падабаецца і асабліва не пытайся. Пра Слынько не ведаю і не чуў. Поле дзейнасці агромністае.**

**Так, часопісы "Ашхабад" -- патрэбны. Гэтыя два прагледзеў. Хаця Рыбіна "Закаспій" прачытаць трэба было б... А ў асноўным усё нармальна. Гуляю ў міні-футбол, плаваю, іначай -- цяжкавата. Трэба спалучаць. Прывітанне ў музеі, Івану Васільевічу... Вялікае прывітанне ўсяму зямляцтву. Іх, як і Ашхабад, успамінаю штодня. Дажывём -- сустрэнемся ў сакавіку-красавіку.**

**З павагай Мікола Калінковіч".**

Блок... Ці не палова жыцця Міколы прайшла пад уражаннем ад Блока, яго лёсу, яго паэзіі. Дасведчаны чытач напэўна памятае сціплую кніжку Калінковіча "Палескія дні Аляксандра Блока". Невялікая памерам, яна камусьці можа падацца плёнам працы некалькіх тыдняў. Але ж Блок, асэнсаванне гэтай асобы -- частка жыцця Міколы Калінковіча. Яшчэ школьнікам лунінецкі падлетак даведаўся пра беларускія калізіі ў лёсе славутага паэта. І пачаў паціху збіраць факты, напаўняць скарбонку ведаў пра яго. І нават калі служыў тэрміновую вайсковую службу пад Ленінградам, не забываўся пра сваю галоўную тэму. Наведваў архівы, музеі, шукаў сучаснікаў Блока. Адзін вучоны муж параіў: напішыце, малады чалавек, лепей пра Блока і космас... Блок на Беларусі? Не тая гэта тэма. І не тэма зусім.

Характар, апантанасць, улюбёнасць у Блока і ў сваю радзіму прымушалі не кідаць росшукаў. Так і ствараліся многія публікацыі, так і сабралася кніжка. А тэмы блокаўскай Мікола не кідаў.

Вось і ў жніўні 1986 года піша Мікола з Масквы: **"Учора былі ў Шахматаве. Двоеснае пачуццё: радасць -- блокаўскі край і... горыч -- заняпад усяго... Парасткі адраджэння ёсць. Крыху відаць. Спадзяванне на дабро.**

**Заўтра -- Канстанцінава. На верасень набыў білеты на "Грыбаедаў, Блок, Пушкін, Гіляроўскі ў Маскве", а таксама -- "Бажэнаў і яго архітэктура". І праз колькі дзён, на пачатку верасня: "Вечарам -- чытаю пра А. Блока і А. Грыбаедава. Шкада, што не маю пакуль магчымасці звярнуцца да архіваў".**

Як і для кожнага нечым захопленага чалавека, Блок стаў для Міколы настаўнікам, дарадчыкам, асобай, па чыіх учынках, словах трэба вывяраць сябе самога, разбірацца ва ўласным шляху па жыцці. А робячы гэта, Калінковіч імкнуўся дзяліцца з людзьмі сваім разуменнем, плёнам свайго асэнсавання жыцця і творчасці Блока.

Увага Міколы не абмінала ніводнага блокаўскага штрышка. Праз блокаўскую тэму Мікола звязваў, яднаў розныя старонкі. І, канешне ж, Беларусь з Туркменіяй.

Вось што напісаў мне краязнаўца ізноў жа ў верасні 1986 года: **"...Я і раней ведаў, што Рыгор Сілыч Карэлін -- прапрадзед Блока па матчынай лініі. У Туркменіі ж пазнаёміўся з раманам Валянціна Рыбіна "Государи и кочевники", у якім адзін з цэнтральных персанажаў -- Сілыч. Здаецца, Валянцін Фёдаравіч і сам не ведаў пра сувязь Карэліна і Блока. Папрасіў Рыбіна зрабіць на кніжцы аўтограф. Прыхапіў раман з сабою падчас чарговай вандроўкі на Беларусь. І завёз у Пінск, а пасля -- у Лапаціна, у музей Блока, аддаў Жураўскаму. Разам, здаецца, з часопісам "Маладосць", лістападаўскі нумар за 1980 год, у якім і была змешчана мая публікацыя "Палескія дні Аляксандра Блока". Вось і ўся гісторыя. Зрэшты (магчыма, спатрэбіцца), прыводжу копію заметкі з брэсцкай абласной газеты "Заря" "Экспонат из Ашхабада": "Полуторатысячный экспонат поступил в музей А. Блока в д. Лопатино из города Ашхабада. Эта книга о прадеде великого русского поэта Александра Александровича Блока по материнской линии, великом ученом, путешественнике-натуралисте и общественном деятеле России -- Григории Силыче Карелине, который внес немалый вклад в укрепление дружбы русского и туркменского народов в 1836--1870 годах.**

**Прислал исторический роман "Государи и кочевники" его автор Валентин Федорович Рыбин, лауреат Государственной премии Туркменской ССР имени Махтумкули. М. Самуйлик, г. Минск".**

**Вось так... Увогуле, мне здаецца, што пінчукі яшчэ не падышлі да сапраўднага асэнсавання А. Блока, да ўсведамлення яго месца ў кантэксце сучаснай літаратуры... Суб'ектыўна! Так, магчыма, і суб'ектыўна, але ж калі быць шчырым... Словам, адносіны ў мяне да лапацінскага музея не адназначныя...**

**А я нават пакуль не адправіў ім сваю кніжку пра Блока. Ды і не звярталіся...**

**Дарэчы, дзеля даклад[illegible], -- усё ж не памятаю, адвёз кнігу Валянціна Фёдаравіча ці адправіў па пошце. Забыўся, даруй. Але ж у музеі, канешне ж, быў. І з Жураўскім бачыўся.**

**Мне думаецца, што [illegible]ей Блока трэба было ра[illegible] у Лунінцы альбо ў Пінску. У Лапаціна ж ён беспрытульны. Выхаваўчая роля па розных прычынах зведзена на нішто... Ці нават лепшае месца для музея было б у Парахонску.**

**Адчуваю, што распісаўся. Але ж калі пра Блока, то... Раскажу табе хаця б штрыхамі гісторыю Рыгора Сілыча. Яго дачка Ліза -- бабка Аляксандра Блока. Доўгі час жыла ў Шахматава. Муж Лізы Рыгораўны -- Андрэй Мік. Бякетаў -- вучоны-батанік, быў рэктарам Пецярбургскага універсітэта. Дык вось, Рыгор Сілыч быў вялікім гумарыстам і надзіва незалежным па тым часе чалавекам. Калі служыў у канцылярыі Аракчэева, змяніў адну літару на тытульным лісце свайго гаспадара. Аракчэеў усе паперы да Мікалая І падпісваў: "Без лести предан". У рэдакцыі Карэліна атрымалася: "Бес лести предан..." Вось і загрукатаў пасля гэтага Рыгор Сілыч па прасторах Расіі. Дайшоў і да Туркменіі. Як бачыш, то і добра, што такі збег абставінаў... Пакуль! Галоўнае -- праца! І толькі Яе Вялікасць! Астатняе -- дапасуецца..."**

...Вопыт працы, якая была аддадзена артыкулам, нарысам, кнізе пра Блока, нарадзіў у душы і сэрцы краязнаўца яшчэ адну любоў, вялікую захопленасць. А прадметам яе Калінковіч абраў... архівы. Калі ў маскоўскім жыцці Міколы здаралася вольная хвіліна, спяшаўся ў архіў. Відаць, мала хто з беларускіх даследчыкаў гэтак сур'ёзна, усебакова пазнаёміўся з дакументамі ў Цэнтральным дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве. Фактычна Мікола як бы прадвызначыў, акрэсліў шляхі, па якіх можна было ісці далей. Паступова даследчык падыходзіў да многіх таямніц...

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

(Заканчэнне будзе).

## ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

**На абанеменце павінен быць прастаўлены адбітак касавай машыны.**

**Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце прастаўляецца адбітак каляндарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).**

**Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасоўкі выдання бланк абанемента з дастававачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.**

**Запаўненне месячных клетак пры пераадрасоўцы выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.**

**Галіна ТВАРАНОВІЧ**

* * *

*сп. Масею СЯДНЁВУ*

**Адкуль мне ведаць, ці ёсць**
**баравыя лясы з бярозамі,**
**дзе спрадвеку растуць чарніцы,**
**паблізу таго невераемна далёкага**
**месца, што завецца Г л е н  К о ў,**
**і сам гэты назоў мне на слыху,**
**бо там жывяце Вы з сям'ёю**
**і з Вашымі вершамі, а таксама**
**з усімі шляхамі й сцежкамі,**
**якія пачаліся, разгортваюцца і вядуць --**
**на Магілёўшчыну...**
**У Г л е н  К о ў жывяце Вы --**
**прагны святла й хараства,**
**замілаваны цудам жыцця...**
**Хацела б пачаставаць Вас чарніцамі,**
**што растуць за дарогаю,**
**зусім побач бацькоўскае хаты**
**у лясным маім Дараганаве, што**
**між Асіповічамі й Старымі Дарогамі...**
**Вядома, яны не такія салодкія,**
**як недзе блізу Вашага Мокрага,**
**у іх, пэўна, меней і сонца,**
**таму адразу прашу прабачэння.**
**Чарніцамі з ягаднікаў маленства**
**хацела б Вас пачаставаць...**

### ВЕРУЮ

**І ў непазбежную пару адчаю,**
**калі па рэштках крыла й зярняці**
**распазнаецца адно пункцірна**
**траекторыя руху душы**
**і аглушальна гучыць**
**маўклівы крык пачатку --**
**тады шчэ мацней, чым калі,**
**па наслані шчыльнай імглы**
**мушу вераваць у паратунак --**
**чарговае ацаленне жыцця**
**ц у д а м.**

* * *

**Вечарэла. Акацыя адцвітала...**
**На прыпынку ля кінастудыі**
**мужчына ружы трымаў,**
**як жанчына трымае дзіця --**
**неўмаля, загорнутае ў пялюшкі...**
**Клопат пяшчоты, надзею**
**так нясуць у абдымках**
**і горнуць бліжэй да грудзей.**
**Хтосьці ружы чакаў!..**

* * *

*Шкада, табе не відно, як заходзіць сонца...*
З размовы.

**Сонца, маё сонца, яно,**
**працалюбівае, ўзыходзіць звычайна**
**па-над усходняй менскай ускраінай.**
**Нібыта і не вогненны палкі дыск,**
**разварушаны дзённым рупескам,**
**кранаецца сасновых вершалін**
**і сунецца вышай па даляглядзе**
**над сумнай геаметрыяй гмахаў**
**і ацалелымі цудам яблынямі**
**з колішніх садоў Зялёнага Лугу...**
**Сонца, маё ўвішнае сонца, яно**
**паспявае за коламі й крыламі,**
**каб святочна лучыць і славіць**
**невымоўную запаветную Каложу**
**у горадзе мары Гародні...**
**і стромкі храм Святога Марка**
**пасярод сербскага Бялграда,**
**па якім нельга не летуценіць...**
**Сонца, маё лагоднае сонца, яно**
**смела вандруе па небасхіле,**
**гаспадарліва аглядае абшары,**
**але ж штодня адпачывае яно,**
**маё ласкавае свяціла,**
**толькі ў лясным Дараганаве,**
**дзе за суседнімі Птушычамі --**
**Камарына, Мязовічы й Крынка...**
**Дакладна ведаю ад нараджэння:**
**праменьчыкі стому страсаюць**
**не ў слаўныя Нёман або Дунай --**
**у Пціч, якая плаўна абмінае**
**маміны Халькі й Сялец ды Краі...**
**Пад зрэдку насупленымі**
**брывамі зялёных берагоў --**
**найласкавая ў свеце рака...**
**Маё сонца бавіць**
**кароткую летнюю ноч**
**толькі ў верасах**
**пад Дараганавам.**

## "ВЯЛІКІ ГІСТАРЫЧНЫ АТЛАС БЕЛАРУСІ"

Інстытут гісторыі АНБ сумесна з вытворча-камерцыйнай фірмай "Арты-Фэкс" рыхтуе да выдання "Вялікі гістарычны атлас Беларусі".

Гэту фундаментальную картаграфічную працу ў пяці тамах плануецца выпусціць у 1995–1997 гадах. Галоўнай навуковай і асветніцкай мэтай атласа з'яўляецца стварэнне шырокай картаграфічнай панарамы тысячагадовага шляху нашай радзімы – Беларусі. Падобна дзяржаўным сімвалам – гербу, флагу і гімну – ён павінен стаць адным з фактараў, што пацвярджаюць наш суверэнітэт, нашу адметнасць, наша месца сярод еўрапейскіх народаў. Даволі вялікія памеры атласа (41 х 29 сантыметраў) дазволяць стварыць добра ўспрымаемыя, "прызрыстыя" карты, насычаныя самай разнастайнай інфармацыяй. Каларыстыка і якасць друку будуць адпавядаць нормам "Еўрастандарту".

Ф. СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"** Колькасць камплектаў

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | месца | лі-тар

на газету **63854** (індэкс выдання)

**"Голас Радзімы"**

| Кошт | падпіскі | ___руб.___кап. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ___руб.___кап. | |

на 199 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

## ПАВАЖАНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ!

**Калі вас цікавіць гісторыя Беларусі, аднаўленне яе традыцый, праблемы адраджэння нацыянальнай спадчыны, заставайцеся і надалей з "Голасам Радзімы". Кошт падпіскі на IV квартал усяго 120 рублёў на 1 месяц і 420 рублёў на 3 месяцы.**

**Спяшайцеся! Падпіска будзе доў[illegible]ца да 15 верасня.**

# ЭХ, ЛАПЦІ МАЕ, ЛЫКАВЫЯ!

**(Заканчэнне. Пачатак на 6-й стар.).**

Плесці лапці ўмеў амаль кожны дарослы мужчына. Адны плялі толькі для сябе ды сваіх родных, другія -- на заказ ці дзеля продажу. Дзеці, галоўным чынам хлопчыкі, толькі назіралі за працэсам пляцення, а калі выраслі, то ўсе сакрэты старажытнага рамяства ўжо ведалі. Асноўнымі матэрыяламі для пляцення лапцей былі не толькі лыка, а таксама льняныя альбо пяньковыя вітушкі ці тонкія вяровачкі. Існавалі свае асаблівасці пры нарыхтоўцы лыка -- ліпавай ці лазовай кары, якую хавалі потым ажно да зімы на гарышчы або вешалі ў клеці. Як сцвярджаюць старыя людзі, лепшым часам для нарыхтоўкі лыка былі май--чэрвень. Адначасова з лыкавымі скруткамі майстры-пляцельшчыкі нарыхтоўвалі тонкія ліпавыя жэрдачкі з карой, альбо, як кажуць у народзе, луццё. Перад выкарыстаннем лыка патрэбна было пакласці ў амаль гарачую ваду і нейкі час вытрымаць, каб матэрыял набыў яшчэ большую эластычнасць, гнуткасць. А луццё распарвалі проста ў печы і здымалі з яго кару.

Акрамя лапцей, з лыка плялі вярэнькі, кошыкі, вілі вяроўкі, якія называюць лычаком.

У залежнасці ад тэхнікі пляцення, матэрыялу, мясцовасці, знешняга выгляду і прызначэння лапці мелі розныя назвы: пасталы, "зрачыя", "пахлопні", "шчарбакі" і іншыя. На Гродзеншчыне больш распаўсюджанымі былі лапці з "вокам" пасярэдзіне, якія плёў некалі Фёдар Гурыновіч. У гэтакіх лапцях так званае "вока" стварала адсутнасць пярэдняга вушка -- ·ракі. У большасці выпадкаў зрачыя" лапці ў вёсках Панямоння выплятали, пачынаючы з наска галоўкі, за выключэннем лапцей-шчарбакоў, што пляліся з пяткі. Выкарыстоўвалі часцей прамое пляценне. Лапці любога тыпу мелі аборкі, для якіх больш падыходзіла канаплянае валакно, гэта значыць, пянька. Як і лыка, пянька таксама мела свой час для нарыхтоўкі і свае сакрэты. Удала нарыхтаваную пяньку ў старажытнасці выкарыстоўвалі нават у якасці матэрыялу для ткацтва.

Зрэдку на тэрыторыі Панямоння сустракаюцца лапці, сплеценыя з саломы, але такі від народнага сялянскага абутку для нашых мясцін не характэрны. Часцей за іншыя тут насілі лапці менавіта лыкавыя, пазней скураныя альбо на скураной падэшве. Нячаста плялі і пяньковыя.

Лапці насілі на працягу года як дарослыя, так і дзеці. Памеры лапцей былі заўсёды значна большыя за нагу, каб зручна было ісці па снезе ды па балоцістых мясцінах. У адрозненне ад іншага абутку яны не адразу паглыбляліся ў мяккае, а часам зусім не правальваліся. Перш чым абуваць лапці, неабходна было накруціць на нагу льняную анучу (кавалак тканіны хатняга палатна). Пазней, калі з'явіліся боты, шматлікія вяскоўцы аддавалі перавагу плеценым лапцям.

Удала сплеценыя лапці маглі выкарыстоўвацца на працягу некалькіх гадоў. Наогул, старадаўнія лапці былі абуткам для любой пары года, для розных прыродных умоў. Але ў многіх былі яшчэ святочныя лапці, у такіх за плугам ці сошкай не ішлі і лён не выбіралі, а абувалі толькі ў святы.

Эх, лапці мае, лыкавыя! Ці не давядзецца нам пры цяперашніх цэнах у абутковых крамах глядзець на вас іншым позіркам, не толькі як на музейны экспанат? Добра, што жывуць яшчэ майстры, якія ўмеюць плесці лапці. Каб не прыйшлося нам прасіць майстра Гурыновіча, што жыве ў горадзе Масты, сплесці лапці.

Лапці мае, лыкавыя! Разумны нехта вас прыдумаў! Але так хочацца бачыць вас толькі ў музеях ды на выстаўках народнай творчасці, а на паліцах магазінаў няхай жа будуць мадэльныя боцікі ды чаравікі на любы густ, толькі больш танныя, з улікам заробку сярэдняга чалавека, а не камерсанта ці спекулянта. Можна нашы "нёманскія", не абавязкова імпартныя...

**Валянціна ВОЛАХ.**

## СПОРТ

ФУТБОЛ. Давялося пахваляваецца беларускім аматарам спорту ў час паўторнай сустрэчы розыгрышу Кубка УЕФА мінскіх дынамаўцаў і клуба "Хіберніанс" з Мальты. У гасцях нашы футбалісты прайгравалі — 1:3. І лік па суме дзвюх сустрэч зраўняўся. Але ў дадатковы час мінчане забілі два мячы (на што мальційцы адказалі адным) і выйшлі ў наступны круг.

ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА. Шматразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў і свету з Гродна Аляксандр Курловіч працяглы час не ўдзельнічаў у спаборніцтвах. І вось нарэшце ён выйшаў на памост. У Германіі, дзе наш зямляк выступае за адзін з клубаў, Аляксандр Курловіч шэсць разоў паказваў вынікі экстра-класа. Асабліва высокую суму ён набраў у перадапошніх спаборніцтвах бундэслігі: рывок — 197,5 кілаграма, штуршок — 247,5 кілаграма. А сума, 445 кілаграмаў, перавышае сусветнае дасягненне немца Велера, які на сёння мае свой лепшы вынік — 442,5 кілаграма.

ВАЛЕЙБОЛ. Маладзёжная зборная каманда Беларусі рыхтуецца да фіналу першынства Еўропы. У таварыскіх сустрэчах у гасцях з камандай Славакіі нашы хлопцы выйгралі тры гульні з чатырох.

ВОДНЫЯ ЛЫЖЫ. У славацкім горадзе Кошыца прайшоў розыгрыш Кубка Еўропы. Першае месца заняла мінчанка Юлія Грамыка. А яе сума ў фігурным катанні — 7 080 ачкоў — з'яўляецца і новым рэкордам Еўропы.

ХАКЕЙ. Міжнародны юнацкі турнір адбыўся ў Мінску. Аднолькавую колькасць ачкоў набралі каманда "Юнацтва-2" і зборная Польшчы. Пераможцамі сталі мінчане, якія выйгралі ў гасцей асабістую сустрэчу.



**Чэмпіёнам Еўропы ў кіданні дыска вярнуўся з Хельсінкі, дзе праходзіў чэмпіянат Еўропы па лёгкай атлетыцы, Уладзімір Дуброўшчык. Дваццацідвухгадовы дынамавец з Гродна змог абысці ў Хельсінкі ўсіх славутых сапернікаў, а там былі чэмпіёны свету і Алімпійскіх гульняў.**

**НА ЗДЫМКУ: Уладзімір ДУБРОЎШЧЫК — чэмпіён Еўропы ў кіданні дыска.**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

В конце мая 1994 года, работая на транспортном рефрижераторе "Скалистый берег" Калининградского акционерного общества "Рефтрансфлот" и находясь в рейсе в районе Фолклендских островов, при стоянке судна на якоре с ошвартованными у борта корейским траулером "Алегрия" и танкером "Лимкуво", исчез мой брат **КАРПОВИЧ Владимир Анатольевич**, 1962 года рождения. Дальнейшая его судьба неизвестна. Убедительно прошу всех, кто чем-либо может помочь в поисках, кто, возможно, случайно мог что-либо знать или слышать о дорогом и родном мне человеке, откликнуться.

**Мой адрес: Республика Беларусь,
220073, г.Минск,
пр.Пушкина, д.66, к.50.
КРАВЧЕНЯ Елене Анатольевне.**

**НА СНИМКЕ: Владимир КАРПОВИЧ с сестрой ЕЛЕНОЙ.**



**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

**Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.**

**Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1232. Падпісана да друку 29. 8.1994 г.**